РУНЬ
ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ
ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT
4 красавіка 2003 № 50 кошт 1 літ

# Памятайце нашчадкі пра замучаных і закатаваных беларусаў!



Фатаздымак Зянона Пазьняка

*У Дзень Хрыстовага Ўваскрашэньня перадаю сваю веру ў моц Ягонага Духу і ў адраджэньне нашае Бацькаўшчыны Беларусі, – сілы ж свае і гады мае (86) імкнуцца ўжо на схіл. Але ласкавы Бог мяне ахоўваў, каб я перадаў тое, што бачыў і перажыў... У 19 гадоў мяне судзіў савецкі трыбунал – сьпярша на 2 гады, а пасьля, яшчэ на 3 гады. Сядзеў у 3-х турмах у Ленінградзе, у турмах Калугі, Волагды, Вяткі й Котласа. А лягероў, дык і не пералічыш. Працаваў на торфараспрацоўках, на будове чыгункі Котлас-Варкута, на лесанарыхтоўках, на здабычы каменя. У вайну 1941-45 г.г. зь дзесятак разоў высьлізваў з кіпцюроў савецкіх тыранаў. На гэтых этапах загінулі сотні тысячаў ні ў чым невінаватых беларусаў, а мяне-ж самаго скалечылі душэўна на ўсё жыцьцё... дагараю на чужыне. Мой кліч ад разьдзёртай душы: Браты беларусы! На чарговыя зьдзекі й этнацыд ня дайцеся!*

*Якуб з-пад Лёзны*

**На старонцы 3 чытайце працяг "Мартыралёгу Віленскага краю"!**

# Для таго, каб утрымаць мір, часам трэба пайсьці на вайну...

*Гэты нумар газэты рыхтаваўся да друку акурат тады, калі Злучаныя Штаты распачалі вайну супраць Ірака, якую не падтрымалі ААН і шмат якія буйныя краіну сьвету: Расея, Нямеччына, Францыя, Кітай ды інш. У Эўропе з прычыны ваенных дзеяньняў ЗША і іхных саюзьнікаў, фактычна, адбылося разьмяжаваньне, якое невядома чым закончыцца. Аднак, зразумела, нас найбольш хвалюе тое, якім чынам трывожныя міжнародныя падзеі апошняга месяца могуць паўплываць на Беларусь, на стаўленьне да яе Эўропы й Амэрыкі, і, наогул, як нам самім правільна з'арыентавацца ў цяперашнім зьменлівым сьвеце, дзеля таго, каб і надалей быць карыснымі ў справе адстойваньня ідэі незалежнасьці беларускага народу й суверэннасьці беларускае дзяржавы. Ці не зьяўляецца сёньня Беларусь разьменнаю картаю ў гульні Расеі з Эўропй і Амэрыкай? Ці будуць заходнія дэмакратыі і надалей падтрымліваць нас у змаганьні з нашым айчынным "Садамам"? З такімі пытаньнямі наш карэспандэнт зьвярнуўся да нашага знанага палітыка, лідара беларускіх кансэрватараў-хрысьціянаў **Зянона Пазьняка**, каторы напярэдадні сьвята 25 Сакавіка наведаў Вільню. Вось што сказаў наш шаноўны госьць (ст. 8).*

# Праблемы выжываньня беларускай нацыі

Што тычыцца беларускай нацыі, дык на цяперашні час яна яшчэ жывая, але мэханізмы ейнага самаўзнаўленьня, існаваньня й разьвіцьця ў значнай ступені разбураныя, жыцьцёвыя сілы падарваныя, а гістарычная пэрспэктыва цьмяная. Як сьледства, выразна абазначылася тэндэнцыя да дэградацыі й выміраньня беларусаў.

Галоўнай зьнешняй прычынай занепаду зьяўляецца тое, што напрацягу ўжо больш чым двух стагодзьдзяў расейскі імпэрыялізм цераз сваю каляніяльную адміністрацыю ў Беларусі праводзіць палітыку, скіраваную на фізычнае зьнішчэньне ды культурную асыміляцыю беларусаў. Гэткая палітыка зь цягам часу мяняе свае формы й робіцца ўсё больш вытанчанай ды адмысловай, але ейны людажэрны зьмест застаецца нязьменны.

Традыцыйна каляніяльная ўлада ў адпаведнасьці з геапалітычнымі імпэрскімі інтарэсамі Расеі распараджаецца беларускай тэрыторыяй, то зьмяншаючы яе да памераў некалькіх раёнаў, то "ўзбуйняючы" да памераў некалькіх вобласьцяў, то цалкам анэксуючы ў склад Расеі. Вось і цяпер гаворка йдзе аб чарговай анэксіі тэрыторыі фармальна незалежнай Беларусі праз "добраахвотнае" ўступленьне яе ў РФ на правах новай губэрні.


Фатаздымак Анатоля Клешчука

Таксама традыцыйна каляніяльная ўлада штучна абмяжоўвае рост беларускага народанасельніцтва. У розныя часы гэта рабілася рознымі сродкамі. У 19 ст. і да сярэдзіны 20 ст. – цераз татальны або выбарачны генацыд, цераз перасяленьне й расьсейваньне беларусаў за межы Бацькаўшчыны – у Сыбір, Урал, казахскія стэпы, цераз раскулачваньне, рабаваньне й давядзеньня да апошняга стану жабрацтва сялянства, цераз алкагалізацыю й люмпенізацыю ўсяго насельніцтва, цераз разбурэньне сям'і й хрысьціянскай маралі. У другой палове 20-га й напачатку 21 ст. разбурэньне інстытуту сям'і дапоўнілася прапагандай і распаўсюджаньнем абортаў і нават прымусовай стэрылізацыяй беларусіх жанчынаў, стварэньнем невыносных эканамічных умоваў існаваньня, калі дзіця робіцца непасільным цяжарам для маладой сямьі. Таксама актыўна выкарыстоўваюцца неспрыяльныя экалягічныя ўмовы, зьвязаныя з Чарнобыльскай катастрофай. Апошнія 17 гадоў каляніяльныя ўлады займаюцца не ліквідацыяй, а прыхаваньнем ейных мэдычных, сацыяльных і дэмаграфічных наступстваў, што спрыяе інтэнсыўнаму выміраньню жыхароў пацярпелых раёнаў. На фоне рэзкага зьніжэньня нараджальнасьці (сёньня з кожных трох зачатых беларускімі жанчынамі немаўлятаў двух забіваюць у жываце маці!) адбываецца несупынны рост сьмяротнасьці праз хваробы, зьвязаныя з пражываньнем ва ўмовах малых дозаў радыяцыі й харчаваньнем забруджанымі радыёнуклідамі прадуктамі. У ва многіх раёнах Гомельшчыны сьмяротнасьць утрая пераўзыходзіць нараджальнасьць. Адначасова ва ўсёй Беларусі скарачаецца працягласьць жыцьця людзей. Дэмаграфічныя наступствы Вялікай Чарнобыльскай вайны для беларусаў ўжо пераўзышлі наступствы Другой сусьветнай вайны. Але-ж Чарнобыльская вайна яшчэ ня скончылася. Карыстаючыся выміраньнем палешукоў, каляніяльныя ўлады заахвочваюць масавую нелегальную эміграцыю й калянізацыю Палесься крымінальнымі элемэнтамі, бежанцамі й бамжамі з Расеі, Казахстану, Узбекістану, Таджыкістану, Каўказу й Малдовы. Фактычна ў трохі прыхаваным выглядзе ўлады праводзяць этнічныя чысткі на беларускім Палесьсі, якое паступова губляе свой натуральны беларускі твар.

Працяг на старонцы 2




Марка БНР

## З нагоды 85-х угодкаў абвешчаньня БНР

віленскія беларусы правялі некалькі сьвяточных імпрэзаў:

**22 сакавіка** ўрачыста адчыніліся дзьверы ТБК. Госьці разьмясьціліся ў пекна аздобленай беларускімі нацыянальнымі сымбалямі й плякатамі залі. Тут дзейнічала й выстава апошніх працаў нашага выдатнага мастака Уладзіміра Кузьменкі, каторы перанёс на палотны мясьціны Вільні, зьвязаныя з жыцьцём і дзейнасьцю вядомых беларускіх дзеячоў: К. Каліноўскага, П. Сергіевіча, Ф. Рушчыца ды інш. А ў залі было нямала сучасных вядомых беларускіх і літоўскіх дзеячоў і палітыкаў: З. Пазьняк, А. Трусаў, У. Хільмановіч, праф. Пяткевіч, В. Ладсбэргіс, А. Стасіс. Сп. Ландсбэргіс адзначыў, што дух незалежнасьці жыве ў Беларусі па сёньняшні дзень і беларусы маюць надзею нга жыцьцё ў незалежнай дзяржаве. "Пасьля падзеньня дыктатарскага рэжыму Садама Хусэйна пачнуць адраджацца народы, каторыя яшчэ знаходзяцца пад уладай таталітарызму, як нашыя суседзі-беларусы. Беларусь у будучыні можа стаць мастом паміж Захадам і Расеяй, а ня часткай Расеі. Усё тут залежыць ад вытрымуі, стойкасьці й самасьвядомасьці беларускіх грамадзянаў", – заўважыў сп. Ландзбэргіс. Стасіс Антанас, які доўгі час адпакутаваў у сталіноўскіх лягерох, адзначыў, што адзінай формай існаваньня нацыі ёсьць дзяржаўнасьць. Зьмястоўным і пераканаўчым быў выступ Зянона Пазьняка, з фрагмэнтамі якога чытач мае магчымасьць пазнаёміцца на старонках газэты.

**23 сакавіка** адбылося набажэнства за Беларусь у касьцёле Сьв. Барталамэя на Зарэччы. Набажэнства праводзіў кс. Шуткевіч, які павіншаваў прыхаджанаў з Днём Волі, а потым даволі рэзка гаварыў пра малую актыўнасьць беларусаў Вільні, пра незгуртаванасьць у справе дапамогі сваёй Бацькаўшчыне, пра неразуменьне падступнай палітыкі цяперашняга беларускага ўраду, пра лёс беларускага народу. "Трэба шанаваць сваю мову, сваю нацыю, гуртавацца вакол касьцёла й дапамагаць яму матар'яльна, зьвяртацца за дапамогай да Бога, бо ён адзіны вырашае лёс усіх нас", – палымяна казаў кс. Шуткевіч. І, сапраўды, ня шмат каталікоў-беларусаў прыйшлі ў гэты дзень на сьвяточную імшу, толькі самыя неабыякавыя беларусы прысутнічалі на набажэнстве за родную Беларусь й ейную будучыню.

**25 Сакавіка**, адранку, шмат беларусаў-віленчукоў зь ініцыятывы Беларускага інфармацыйнага цэнтру й Беларускага музэю ім. І. Луцкевіча сабралася каля помніка Гедыміну на катэдральным пляцу. Пасьля прывітальных прамоваў прысутныя рушылі на Замкавую гару, дзе ўсклалі кветкі й паставілі сьвечкі на мейсцы пахаваньня Кастуся Каліноўскага. Сёньня гэтае мейсца робіцца для беларусаў сьвятым мейсцам паломніцтва ў Вільні.

**25 Сакавіка** аб 16 гадз. у царкве Сьв. Мікалая пачалося багаслужэньне за Беларусь і ейны народ. Вельмі добра прамаўляў а. Васілі, усе прысутныя прасілі ў Бога прыходу ў Беларусь лепшай долі й жыцьця.

**25 Сакавіка**, увечары, У Доме нацыянальных абшчынаў гучэлі беларускія нацыянальныя й народныя песьні ў выкананьні З. Бартосіка і В. Кавальчук, якіх спорна падтрымлівалі ўсе прысутныя на канцэрце-пачостцы.

*Падрыхтаваў* **Павал Саўчанка**

## Памятны крыж

у гонар Ф. Багушэвіча быў устаноўлены сіламі ТБМ Віленскага краю у Сьвіранах – мейсцы нараджэньня паэта. Крыж асьвеньціў ксёндз-уніят зь Вільні Ян Даўкшыс. На жаль, Рукойнскі ксёндз Ян Мацкевіч, у парахвію якога ўваходзяць Сьвіраны, ад асьвянчэньня крыжа адмовіўся, спасылаючыся на тое, што яму, нібыта, трэба мець дазвол раённых уладаў (тых самых, якія летась вясною зьнялі ў Сьвіранах мэмарыяльную дошку Ф. Багушэвіча).

**Юры Гіль**

## Хроніка школьнага жыцьця

***31 студзеня*** ў Віленскай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны адзначачаўся традыцыйны Дзень гімназіі. На Сьвята былі запрошаныя дзяўчаты з фальклёрнага ансамблю "Квецень" 9-ай Менскай школы (кіраўнічка Тацяна Крыўко).



Удзельніцы ансамблю "Лянок" каля помніка Каліноўскаму ў Салечніках. Трэцяя зьлева (у першым радзе) дырактарка школы імя Ф. Скарыны Галіна Сівалава.

***14 лютага***, на Дзень Валяньціна, школа адзначыла пачатак Стодзёнкі (100 дзён да пачатку выпускных экзаменаў). З кожным годам сцэнары правядзеньня гэтай імпрэзы робіцца ўсё больш прафэсыйным, а школьнікі-акторы не саступаюць сваімі здольнасьцямі тэлевізійным КВНаўцам. Нездарма да Стодзёнкі рыхтуюцца з такім вялікім энтузіязмам.

***22 лютага*** у школе надзвычай цікава прайшоў Сусьветны дзень здароўя. Арганізатаркай імпрэзы была настаўніца фізычнай культуры й геаграфіі Ліна Грыганене й настаўніца Эдыта Шукевіч. Школьныя сцэны былі ўпрыгожаныя малюнкамі, насьценнымі газэтамі, каляровымі балёнчыкамі.

***1 сакавіка*** ў Віленскай школе "Ateitis" адбыўся гарадзкі конкурс ангельскай песьні. Хочацца падзякаваць настаўніцам ангельскай мовы Ірыне Гарбачэўскай і Сьвятлане Каравaевай за добрую падрыхтоўку нашых вучняў. Трыё сяміклясьніцаў, Ганна Быкава, Эміля Стральчэня й Натальля Кавальчук, увайшло ў дзясятку лепшых. Добра выступіла й вучаніца 10-ай клясы Маргарыта Стральчэня.

***2 сакавіка*** вакальны ансамбаль "Лянок" выяжджаў у раённы цэнтар Салечнікі на сьвяткаваньне Масьленіцы. Вельмі цёпла прынялі ансамбаль у тамтэйшым Беларускім культурным цэнтры. Канцэрт-жа адбыўся на гарадзкой плошчы, дзе ўдзельнікі ансамблю сфатаграфаваліся каля помніка Каліноўскаму.

***10 сакавіка*** вучні нашай школы Алена Базар і Натальля Бука, пад кіраўніцтвам настаўніцаў Сьвятланы Грышко й Галіны Вінцукявечэне, удзельнічалі ў 8-ай Рэспубліканскай канфэрэнцыі дасьледчых работаў школьнікаў у Менску. Выступленьні нашых вучаніцаў выклікалі вялікую зацікаўленасьць, каманда атрымала запрашэньне на 10-ую Міжнародную канфэрэнцыю маладых навукоўцаў, якая будзе праходзіць у Чэхіі 22-27 красавіка.

***22 сакавіка*** школьнікі абаранялі праект "Мы – дзеці літоўскай зямлі". Ідэя праекту належыла настаўніцы Ліне Грыганене, яная была й галоўнай арганізатаркаю праекту. У праекце бралі ўдзел 6 школаў горада – больш за 200 удзельнікаў. Была праведзеная спартыўная эстафета, конкурс сачыненьняў, малюнкаў, канцэртная праграма.

У стадаі завяршэньня знаходзяцца праекты, прысьвечаны вывучэньню віленскага пэрыяду жыцьця й дзейнасьці Францішкі Скарыны. Выкананьнем гэтага праекту займаюцца вучні 11-ых клясаў пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі Галіны Ухдавінене і вучні 9-ай і 12-ых клясаў пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы й літаратуры Алены Базюк.

***27 сакавіка*** настаўніца Ала Шынкевіч арганізавала зь лялечным тэатрам "Званочак" сьвяткаваньне Міжнароднага дня тэатру, а ***28 сакавіка*** "Званочак" разам з ансамблем "Жавароначкі" бралі ўдзел у тэатральным фэстывалі Караліншскай сянюніі.

***27 сакавіка*** адбыўся заключны этап гарадзкога конкурсу "Нас гэта турбуе". Конкурс доўжыўся 5 месяцаў, праект курыравала настаўніца геаграфіі й працы Галіна Вінцукявічэне. Падчас выкананьня праекту вучні вывучалі праблему ўтылізацыі бытавых адкідаў у Літве, займаліся ачышчэньнем горада. У выніку нашая школа заняла ІІ мейсца, атрымала ад арганізатараў конкурсу каштоўныя падарункі.

*Падрыхтавала*
**Валяньціна Кавальчук**

## Літва афіцыйна падтрымала ЗША

у ваенных дзеяньнях супраць Іраку. Літоўскі прэзыдэнт Раландас Паксас, у дасланым на імя прэзыдэнта ЗША лісьце, зазначыў: "Літва заўсёды імкнулася й будзе імкнуцца да мірных спосабаў вырашэньня канфліктаў. Аднак, зыходзячы з уласнага гістарычнага досьведу, у тых выпадках, калі гэтыя спосабы не дапамагаюць супраць дыктатараў, трэба прымаць іншыя меры". У адказе на ліст прэзыдэнт ЗША Дж. Буш падзякаваў Літве за падтрымку ў барацьбе з тэрарызмам і дзеяньняў міжнароднай кааліцыі супраць іракскага рэжыму: "У гэты гістарычны момант хачу яшчэ раз ад імя асмэрыканцаў падзякаваць Вам і ўраду Вашай краіны за падтрымку ў сусьветнай вайне з тэрарызмам. Мы не забудземся на тых, хто нас падтрымоўвае".

## Галоўны камісар паліцыі

Эрыкас Капягус забараніў сваім падначаленым замяраць хуткасьць руху аўтамабіляў "з-за кустоў". У паліцыянтаў-дарожнікаў забралі пераносныя радары – цяпер радары будуць выдавацца толькі ў часе плянаваных акцыяў.

## Лідарам у суіцыдзе

(самазабойствах) ужо доўгія гады зьяўляецца Літва. У 2001 г. на 100 тыс. ейных жыхароў зарэгістравана 44 самазабойствы (Расея – 37,8; Беларусь – 34,2; Латвія – 30,7). Больш таго, аказваецца, што Літва была першай у суіцыдзе праз усё 20 ст. Так з 1930 па 1940 г. было 2 тыс выпадкаў самагубства, а ў наш час дабраахвотна з жыцьцём растаецца 1,5-1,7 тыс. чал. Сярод самагубцаў – дзеці ад 5-ці гадоў, школьнікі, студэнты, мужчыны ад 35 да 55 гадоў, шмат старых. Прычыны самагубства розныя: жабрацтва, беспрацоўе, шок ад пераходу да свабоднага рынку, п'янства (55 % самазабойстваў у горадзе й 70-90 % на вёсцы зьдзяйсьняюцца ў стане алкагольнага ап'яненьня), наркотыкі, абыякавасьць дзяржавы й грамадзтва да чалавека, расслаеньне грамадзтва. Жахлівыя лічбы самазабойстваў гавораць ужо не аб трагедыі канкрэтнай асобы, сям'і, а пра хваробу ўсяго грамадзтва.

*Падрыхтавала*
**Валяньціна Грыневіч**

# Праблемы выжываньня беларускай нацыі

*Працяг са старонкі 1*

На вайне як на вайне: зачышчаная ад беларусаў жыцьцёвая прастора імкліва займаецца чужынцамі.

Асаблівую ўвагу каляніяльныя ўлады традыцыйна надаюць разбурэньню нацыянальнай культуры беларусаў й замяшчэньню яе імпэрскім сурагатам. Улады ведаюць, што пазбаўлены нацыянальнай культуры (гэта значыць разчалавечаны) беларус ня мае нацыянальнай сьвядомасьці й не ўяўляе сваіх нацыянальных інтарэсаў. Ён ня здольны супраціўляцца гвалту й ня здольны змагацца за сваё жыцьцё, сваю зямлю, за плён сваё працы. Яго можна пагнаць на чужую вайну або прымусіць уласнымі рукамі душыць будучыню сваіх дзяцей. Вось чаму ўжо два стагодзьдзі каляніяльная школа робіць зь беларусамі тое, што ня ў стане аказаўся зрабіць зь імі суvoраўскі штык, мураўёўская шыбеніца ды наган энкавэдыстага. Каляніяльная сыстэма адукацыі разам з каляніяльнымі й імпэрскімі СМІ (не трэба забавацца на тое, што Беларусь знаходзіцца ў расейскай інфармацыйнай прасторы) займаюцца татальнай русыфікацыяй беларускай нацыі, робячы яе неадэкватнай умовам жыцьцядзейнасьці, асуджаючы на залежнасьць ды выміраньне. У выніку разбурэньня мэханізмаў нацыянана-культурнага самаўзнаўленьня, праз зьнішчэньне беларускай школы, беларускай мовы й гістарычнай памяці беларусаў і замены іх расейскай каляніяльнай школай, расейскай мовай і фальшаванай расейскай гісторыяй, – ужо многія пакаленьні беларусаў глядзяць на сьвет чужымі вачыма, жывуць чужым жыцьцём, кіруюцца чужым розумам і воляй, не распараджаюцца сваім лёсам, сваёй зямлёй, нетрамі, маёмасьцю й працай.

**Уладзімір Старчанка**

# Там, дзе мяне няма...

### 17. Пра Веру Ніжанкоўскую. Сьмерць Тоніка. Зьвесткі пра Баляслава Грабіньскага й Клаўдзія Душэўскага. Пра сям'ю Душэўскіх. Пра Паўла Карузу.

Два разы ў год, вясной і восеньню, езьдзілі ў Радашкавічы да Кацярыны Жэлязоўскай, былой настаўніцы музыкі, у яе жылі ў 1941-42 гг. Юрка, Лявон і Тонік. Заўсёды наведавалі й Веру Ніжанкоўскую, першую жонку Браніслава Тарашкевіча. Яна жыла на „ферме". Дом, у якім калісьці жылі Тарашкевічы, быў заняты пад бальніцу. На ім вісела мамэрыяльная дошка, прысьвечаная Тарашкевічу. (Нядаўна дом згарэў). Пані Вера з дачкой Ірай жыла ў службовым доме, старым, халодным. Але наўкол быў гарод поўны розных кветак. Пані Вера была цікавай жанчынай, шмат распавядала пра „Тараса" (так называлі Тарашкевіча) ды іншых беларускіх дзеячоў, захавала багаты архіў. Нягледзячы на цяжкі лёс — ейны першы муж, Тарашкевіч, які сядзеў у польскім вастрозе, быў абменены на Ф. Аляхновіча й неўзабаве расстраляны, сын яе ад Тарашкевіча, Славік, загінуў у 1942 г. у партызанах, другі муж, Ніжанкоўскі, загінуў ад кулі партызанаў, якія абстралялі грузавік, у якім ён ехаў, яна сама засталася з маленькай дачушкаю — Пані Вера захавала бадзёрасьць, пачуцьцё гумару, цікавасьць да жыцьцьця. Яна няраз прыяжджала ў Вільню, наведавала маму, ліставалася зь ёю й з намі.

Пару разоў мы езьдзілі зь Лявонам у Гатчыну да ягонай кузыны Мані. Яна доўгі час працавала рэнтгенолягам у Манчагорску, а як выйшла на пэньсію, пабудавала каапэратыўную кватэру ў Гатчыне. Зь ёй жыла ейная дачка Маргарыта, зяць Юры Пяроў ды малыя ўнукі Наташа й Паўлік.

У студзені 1976 г. нас спаткала вялікая бяда — памёр Тонік, а было яму 57 гадоў. Ён даўна жаліўся на болі ў сэрцы, задыхаўся. І вось 27 студзеня, ноччу, ён сказаў Славе: „Нешта мне нядобра. Зрабі мне ўкол". Слава пайшоў на кухню, каб выварыць шпрыц (аднаразавых яшчэ ў нас не было), а Тонік упаў — і гэта быў канец, інфаркт. Уранку да нас прыехаў Слава з гэтай весткай, і мы паехалі ў „Лясную хатку". Мама сядзела захутаная ў плед, усю яе калаціла, а ў вачах была такая роспач... Я падумала чамусьці па-нямецку: „ein Hдufechen Elend". І тут выявілася, хто былі сапраўдныя сябры (на жаль, не беларусы): Генка Цемналомскі, які працаваў зь Лявонам на ЖБК — 3 і Алег Капчонаў, кандыдат тэхнічных навукаў. Пахавалі Тоніка на могілках на Панарах, побач з магілай бабуні Мілі (Эміліі Сівіцкай) і майго бацькі Антона Войціка. Мамы на паховінах не было, зь ёй заставаліся Марыся Маслоўская й Жэня Лобан.

Сьмерць Тоніка зьмяніла ўсё нашае жыцьцё. Цяпер мы рэдка бывалі ў сябе дома, у Лазьдзінай. Аднак мы зь Лявонам працавалі, Слава заканчваў пяты курс, і ўдзень мама часта бывала адна. Першыя тыдні й месяцы яна ўсё гавары аб сьмерці, але візыты вучняў, студэнтаў, пісьменьнікаў, мастакоў зь Беларусі, а таксама віленскіх беларусаў, лісты, што йшлі з розных краінаў, памагалі перамагчы гора. І яна зноў распавядала, дзялілася сваімі ўспамінамі, пісала ўспаміны.

Пачалі прыходзіць лісты ад старых сяброў: ад Баляслава Грабінскага, якога яна ведала яшчэ з гадоў ГГБМ, ён жыў у Каліфорніі, пісаў цікавыя лісты, прысылаў фатаграфіі; ад Вітаўта Тумаша, ад Зыгмунта Абрамовіча. Узнавіліся й некаторыя старыя знаёмствы ў Вільні. Мы зь Лявонам наведавалі Душэўскіх, якіх Лявон ведаў з 1939 г. Тады Клаўдзій Душэўскі памагаў „хлопцам", Лявону й Юрку, пасьля арышту іхнага бацькі Антона Луцкевіча.



*Зьлева направа: Павал Каруза, Лявон Луцкевіч, Арсень Ліс*

К. Душэўскі, вядомы літоўскі архітэктар і беларускі дзеяч, быў у 1940 г. арыштаваны, выйшаў з вастрогу, калі немцы занялі Коўна, пасьля трапіў у нямецкі канцлягер, а па заканчэньні вайны — зноў у савецкую турму, асвабадзілі яго ў 1954 г. Арышты, штурмы, зьдзекі не зламалі яго. Ён не пабаяўся пісаць „хлопцам" лістоў на Калыму. Цяпер у Вільні жыла ягоная ўдава пані Люся й сын Сьцяпан з жонкай. Мы бывалі ў пані Люсі, яна была цікавая жанчына, магла шмат што распавесьці. Расейка паводле паходжаньня, навучылася гаварыць па-беларуску, па-польску, горш па-літоўску. Часам яна прыходзіла й да нас. Сьцяпан Душэўскі так быў напалоханы лёсам бацькі, што баяўся на вуліцы пры людзях гаварыць па-беларуску. Ён гаварыў па-літоўску, і толькі калі заходзіў у кватэру й зачыняў за сабою дзьверы, пераходзіў на беларускую мову.

А яшчэ мы сустракаліся з Паўлам Карузам, колішнім паслом у польскі сойм ад беларусаў. Гэта быў вельмі цікавы чалавек, фальклярыст, кампазытар, дырыжор. Амаль 20 гадоў ён прасядзеў у бальшавіцкіх лягерох. Яшчэ ў 1934 г., ашуканствам, перакінуты ў СССР, вярнуўся ў Вільню ў 1957 г. Працаваў дырыжорам у польскім ансамблі песьні й танца, настройшчыкам інструмэнтаў у школе імя Чурлёніса. Мы наведавалі яго ў сьціплым пакойчыку на ціхай вулачцы на Зьвярынцы, дзе найбольш мейсца займала піяніна. Гаспадар граў свае творы, расказваў пра былое й пра свае праекты на будучае. Калі Каруза ажаніўся, ён з жонкай Жэняй бываў у нас то на Калядах, то проста без дайпрычыны. Але цяпер, пасьля сьмерці Тоніка, мы рэдка бывалі дома, рэдка прыймалі гасьцей, дый самі рэдка хадзілі ў госьці.



# Мартыралёг Віленскага краю

1. Адамовіч Казімір Восіпавіч, 1897 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Асінаўка Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., член калгаса «Маяк социализма». Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
2. Адамовіч Рыгор Ануфрыевіч, 1905 г., нар. в. Путрычы Вілейскага павета Віленскай губ., жыў на х. Кумлова Кажэўнікаўскага р-на, член калгаса «Доброволец». Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Вызвалены ў студзені 1940 г. у сувязі з адменай рашэння «тройкі» УНКВД.
3. Адамовіч Станіслаў Рыгоравіч, 1880 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Асінаўка Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
4. Адамовіч Уладзімір Рыгоравіч, 1874 г., нар. в. Міткевічы (в. Міцкевічы Княгінінскай вол., Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Асінаўка Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., член калгаса «Маяк социализма». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
5. Адарыч Аляксандр Пятровіч, 1908 г., нар. в. Дунайчыцы Віленскай губ., жыў у Асінаўскім р-не Новасібірскай вобл., калгаснік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
6. Адарыч Вячаслаў Пятровіч, 1908 г., нар. в. Дунайчыцы Віленскай губ., жыў у Асінаўскім р-не Новасібірскай вобл., інструктар дзіцячага дома. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
7. Акуліч Пётр Аляксандравіч, 1893 г., нар. в. Пятровічы Віленскай губ., жыў у г. Томску, загадчык крамы № 7 працоўнай калоніі НКВД. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
8. Акушка Васіль Дзмітрыевіч, 1912 г., нар. в. Грамовічы Віленскай губ., жыў у г. Томску, каваль трэста «Томлес». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
9. Андрыеўскі Антон Каліставіч, 1904 г., нар. в. Порклішча (в. Порплішча Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Нікольскае Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1930 г. Расстраляны.
10. Аніскевіч Восіп Дзмітрыевіч, 1881 г., нар. в. Крупнікі (Будслаўскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у пас. Знаменка Крывашэінскага р-на, чорнарабочы Магочынскага лесазавода. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
11. Анкудовіч Міхаіл Ільіч, 1883 г., нар. в. Славічы (Заражскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Полазава Крывашэінскага р-на, рымар Сібгандлю. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
12. Анкудовіч Станіслаў Андрэевіч, 1896 г., нар. в. Славічы (Заражскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Полазава Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
13. Анкудовіч Станіслаў Антонавіч, 1891 г., ур. Віленскай губ., жыў у Межанінаўскім с/с Томскага р-на, кладаўшчык калгаса «Красный Октябрь». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
14. Аноп Апанас Васільевіч, 1910 г., нар. в. Замосць Віленскай губ., жыў у г. Томску, сталяр арцелі «Новая жизнь». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
15. Антановіч Аляксандр Георгіевіч, 1890 г., нар. в. Андрэйкі Мядзельскай вол. (Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Асінаўка Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., аднаасобнік. Арыштаваны ў 1931 г. Асуджаны да 3 гадоў лагераў.
16. Антух Анань Ільіч, 1897 г., нар. в. Роменка Віленскай губ., жыў у в. Вазнясенка Туганскага р-на, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
17. Арцімовіч Андрэй Усцінавіч, 1880 г., нар. в. Міколава Віленскай губ., жыў у в. Андрэеўка Туганскага р-на ЗСК, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
18. Астроўскі Рыгор Максімавіч, 1910 г., нар. в. Скаварошына Віленскай губ., жыў і працаваў у саўгасе працоўнай калоніі ім. Закоўскага. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
19. Аўгусціновіч Адам Мартынавіч, 1885 г., нар. в. Крэўкі Віленскай губ., жыў на Верх-Туендацкім хутары Асінаўскага р-на ЗСК, пчаляр калгаса ім. «6-го съезда Советов». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
20. Аўдзяевіч Мікалай Арцем'евіч, 1909 г., нар. в. Ягадан Віленскай губ., жыў у в. Шагарка ЗСК, грузчык «Заготзерно». Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
21. Аўдыцкі Арсен Цітавіч, 1895 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Батурына Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., грузчык «Заготзерно» Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
22. Аўкштоль Станіслаў Усцінавіч, 1900 г., нар. в. Барадзінічы Віленскай губ., жыў у в. Канстанцінаўка Ламавіцкага с/с Асінаўскага р-на Новасібірскай вобл., аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
23. Аўлас Сцяпан Мацвеевіч, 1890 г., нар. в. Ваўкі (Наржыцкая вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на Новасібірскай вобл., кладаўшчык калгаса «1 Мая». Арыштаваны ў 1938 г. Асуджаны на 5 гадоў ППЛ.
24. Аўрайцэвіч Канстанцін Якаўлевіч, 1874 г., нар. в. Мыцькевічы (в. Міцкевічы Княгінінскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Асінаўка Кажэўнікаўскага р-на Новасібірскай вобл., аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
25. Ашайчук Аляксандр Францавіч, 1898 г., ур. Ашмянскага павета Віленскай губ., жыў у в. Крывашэіна, цясляр райзо. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

*Працяг будзе*

## II Зьезд Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі"

адбыўся некалькі месяцаў таму назад у Маскве. Кіраўніцтва НКА ладзіла гэтае мерапрыемства выключна пад знакам найхутчэйшага аб'яднаньня Беларусі й Расеі, "создания единого союзного государства", выказаўшы адпаведнае пажаданьне, а дакладней палітычны націск у прынятым зьездам звароце да прэзыдэнтаў абедзьвюх дзяржаваў. Прыкметна, што ў прывітальнай прамове віцэ-прэмьера Беларусі сп. Дражына (прамаўляў, у адрозненьні ад дакладчыка, старшыні НКА, і абсалютнай большасьці аратараў, на бездакорнай беларускай мове) "интеграционно-объединительная" рыторыка цалкам адсутнічала; акцэнты былі зробленыя на ўмацаваньне, усебаковае разьвіцьцё Беларускай дзяржавы, на кансалідацыю беларускае дыяспары. Яшчэ выразей нацыянальна-адраджэнчая ідэя прагучала з вуснаў прысутнай на зьезьдзе спн. Алены Макоўскай, старшыні Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". З прапановай прыняць **Заяву ў падтрымку незалежнасьці Беларусі** выступіў ад імя грамады падпісантаў Віктар Сулкоўскі. Старшыня зьезду абарваў яго на першым сказе, маўляў, заява палітычная, парушае Статут НКА й таму не можа абмяркоўвацца (інтэгравацца ў "саюз", паводле ягонага меркаваньня, ня ёсьць палітыка). Некалькі чырвоных мандатаў, узнятых ўгору, падтрымалі старшыню... Так вось справу шляхетную зглумілі, балазе, назва Заявы прагучала!

Законапаслухмяныя грамадзяне расейскай дзяржавы, удзельнікі дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця ў краіне – беларусы Расеі – ня менш іншых зацікаўленыя ў пасьпяховым разьвіцьці роднае Беларусі, паглыбленьні расейска-беларускіх адносінаў на падставе раўнапраўнасьці, узаемнай пашаны незалежнасьці й сувэрэнітэту нашых дзяржаваў і народаў. Ня лічым карэктнымі й апраўданымі з гледзішча карэнных інтарэсаў Расейскай Фэдэрацыі спробы некаторых палітыкаў абумовіць інтэграцыю паміж абедзьвюмя краінамі стратай Беларусьсю сваёй дзяржаўнай незалежнасьці. Падобны падыход супярэчыць і не сумяшчальны з шматвекавым змаганьнем беларускага народу за свой самастойны палітычны лад, супраць асыміляцыйнага ціску з боку суседніх, больш буйных этнасаў, за ўмацаваньне й самараскрыцьцё беларускай супольнасьцю сваёй этна-нацыянальнай тоеснасьці, зьдзяўсненьне ўласнага пакліканьня ў гісторыка-цывілізацыйным працэсе. Мы перакананыя ў тым, што толькі на гуманнай аснове сяброўства роўных з роўнымі, вольных з вольнымі, можа й павіннае разьвівацца ўсебаковае зьбліжэньне Беларусі й Расеі, як і іншых краін на постсавецкай прасторы. Заклікаем нашых суродзічаў у Расеіі, беларускія суполкі й аб'яднаньні ўсяляк садзейнічаць пашырэньню ідэі сяброўства самастойных краінаў, а таксама фармаваньню ў расейскім грамадзтве адэкватнага вобраза Беларусі, расейска-беларускіх прыязных узаемадачыненьняў.

*Заяву падпісалі:* **Аляксей Каўка, Антон Сабалеўскі, Аляксандар Улашчык, Міхаіл Шкялёнак, Георгій Казак, Анатоль Лашкевіч, Аляксандар Антух** (усе – Масква), **Віктар Сулкоўскі** (Рэспубліка Комі), **Уладзімір Драздоў** (Навасібірск), **Алег Рудакоў, Алена Сіпакова** (абодва – Іркуцк), акадэмік **Уладзімір Пакроўскі** (Масква), **Валеры Паддубскі** (Смаленск).

Уладзімір Старчанка

# Дыялёгі або нататкі ў мэтадалёгіі палітычнай дзейнасьці

*Працяг. Пачатак у № 47.*

## Дыялёг дзевяты

**- Эй, мужык, ты навошта на асфальт зерне кідаеш?**

- Дык жыта сею! Я ўжо трыццаць гадоў на гэтым месцы яго сею.

**- Але-ж сёлета тут асфальтку праклалі!..**

- Дык думаеш, болей ня вырасце жыта?

**- Канечне, ня вырасце. Ідзі, дзядзька, у іншым месцы сей!**

***Выснова.*** Звяртай увагу на ўмовы дзейнасьці і калі заўважыў, што зямлю пакрылі асфальтам, ня кідай на яго зерне - не ўзыйдзе. Не лаві рыбу там, дзе цяпер няма вады, нават калі раней на гэтым месцы быў добры ўлоў.

***Камэнтар.*** Эфэктыўнасьць і зьмест дзейнасьці залежаць ад умоваў ейнага ажыцьцяўленьня. Зьмены ва ўмовах дзейнасьці заўсёды адбіваюцца на ейнай эфэктыўнасьці. Шукай, пляную, ствarай і выкарыстоўвай спрыяльныя ўмовы дзейнасьці, запабягай дрэнных умоваў дзейнасьці. Карэктыруй дзейнасьць у адпаведнасьці з умовамі ейнага ажыцьцяўленьня.

***Прыклад.*** Да Чарнобыльскай аварыі народнымі промысламі палешукоў былі збор дароў лесу, рыбная лоўля ды паляваньне. Заняткі гэтыя былі вельмі карысныя для сямейнага бюджэту й здароўя. Аднак пасля аварыі грыбы, суніцы, рыба й дзічына зрабіліся моцна радыёактыўнымі й непрыдатнымі для харчаваньня. Сам лес стаў «зонай». Тым ня менш промысел захаваўся. Людзі не зьмянілі сваіх паводзінаў, вытворчай дзейнасьці ў адпаведнасьці з новымі ўмовамі жыцьця. Тымчасам харчаваньне, забруджанае радыёнуклідамі, прывяло да рэзкага павелічэньня захворваемасьці (у тым ліку на ракавыя хваробы), скарачэньня працягласьці жыцьця, росту сьмяротнасьці. Цяпер палешукі выміраюць, бо працягласьць жыцьця скарацілася на трацэну, а сьмяротнасьць у тры разы пераўзыходзіць нараджальнасьць.

*Палітычная аналёгія.* Пачынаючы з 1996 г. (пасля антыканстытуцыйнага перавароту) ўмовы палітычнай барацьбы ў Беларусі характарызаваліся тым, што нелегітымны (не прызнаны Эўропай і Амэрыкай) прэзыдэнт (пры падтрымцы Расеі й ейнай каляніяльнай адміністрацыі) валодаў рэальнай выканаўчай уладай і нелегітымным эрзац-парлямантам («палаткай»), а легітымны (прызнаны Эўропай і Амэрыкай) Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету 13 скліканьня на чале з старшынём Сямёнам Шарэцкім рэальнай уладай не валодаў. А зь лета 1999 г. апошні фармальна зрабіўся яшчэ й выканаўцам паўнамоцтваў прэзыдэнта РБ у сувязі з заканчэньнем пяцігадовага прэзыдэнцкага тэрміну Лукашэнкі. Згаданыя ўмовы палітычнай дзейнасьці можна назваць складанымі, але нельга - сьмяротнымі.

Чым у такіх умовах павінен быў заняцца Лукашэнка? Былі магчымыя два варыянты. Калі для яго галоўным было выкананьне сваёй палітычнай місіі (поўная юрыдычная анэксія Беларусі Расеяй), дык ён павінен быў скіраваць усе намаганьні на набыцьцё легітымнасьці для сябе й «палаткі». Калі-ж для яго было важней уласнае самазахаваньне - дык задача самазахаваньня, утрыманьня рэальнай улады выходзіла на першы плян (а зь міжнароднай легітымнасьцю можна й пацярпець, дастаткова, каб адна Расея прызнавала). Практыка паказала, што Лукашэнка выбраў другі шлях.

Чым павінная была б заняцца апазыцыя рэжыму (тут маю на ўвазе і Народна-вызвольны рух (НВР), і Аб'яднаную апазыцыю (АА))? Зноў маем два варыянты.

*Варыянт першы.* Калі за мэту дзейнасьці браць аднаўленьне ў краіне канстытуцыйнай законнасьці, дэмакратыі і ўсталяваньне нацыянальнай зьместам улады, дык трэба было пачаць напаўняць існуючую легітымную ўладу рэальным палітычным зьместам і значэньнем. Па гэтым шляху й пайшоў быў НВР, які прапанаваў ідэю стварэньня Грамадзянскага парляманту ў падтрымку рэштkaў ВС-13 і ягонага старшыні-прэзыдэнта. (Ведама, што караля гуляе сьвіта. Шарэцкі толькі тады мог рэальна выконваць абавязкі прэзыдэнта, калі-б ягоныя ўказы падтрымліваліся й хаця-б у мінімальным аб'ёме выконваліся ў Беларусі. Грамадзянскі парлямант і мог стаць першасным мэханізмам падтрымкі й рэалізацыі ўладных паўнамоцтваў легітымнай улады, мэханізмам падрыхтоўкі дэмакратычных і сумленных выбараў новага ВС). Была магчымасьць стварэньня законнага Ўраду (быў нават прызначаны Генэральны пракурор РБ). Аднак ідэя была рашуча адкінутая АА, з прадстаўнікоў якой Прэзідыум ВС-13 фактычна й складаўся. Усе намаганьні НВР скарыстаць перавагі легітымнасьці былі адкінутыя з боку АА, якая праз падкантрольную прэсу пачала кампанію крытыкі й высмейваньня сп. Шарэцкага, ягоных дзеяньняў і зваротаў. Адначасова прадстаўнікі АА у ВС-13 (на жаль прадстаўнікоў НВР у ВС-13 не было) сабатавалі дзейнасьць гэтага прадстаўнічага воргану.

*Варыянт другі.* Калі-ж за мэту дзейнасьці браць вяртанне легітымнасьці каляніяльнаму рэжыму й стварэньне ўмоваў для юрыдычна карэктнай (з пункту гледжаньня міжнароднага права) анэксіі Беларусі Расеяй, дык трэба было рабіць выгляд, што ніякай легітымнай заканадаўчай у ВС-13, а з 1999 г. і выканаўчай (у асобе Шарэцкага) улады ў Беларусі няма. Трэба было браць актыўны ўдзел у рознага ўзроўню псэўдавыбарах з папярэдне расьпісанымі рэжымам пераможцамі, галоўная мэта якіх - наданьне легітымнасьці структурам Каляніяльнай адміністрацыі (КА). (Забаўна, што дзеячы АА, лезучы ў «палатку», не хацелі задацца простым пытаньнем: навошта людзям, якія ўжо маюць пасады й крэслы ў легітымным ВС, бесьнадзейна змагацца за крэслы ў нелегітымнай і ня маючай рэальных паўнамоцтваў «палатцы»? Які ў гэтым практычны й палітычны сэнс?)

Гэты другі варыянт і выбрала АА, якая цьвёрда трымаецца яго па цяперашні час. Праўда, поўнасьцю дасягнуць мэты яна пакуль ня здолела, але зьменшыць вагу міжнароднай легітымнасьці ВС-13 і ягонага старшыні-прэзыдэнта ў значнай ступені ўдалося. Калі-ж згаданая дзейнасьць АА дасьць нарэшце плён, дык умовы палітычнай барацьбы ў Беларусі катастрафічна пагоршацца, бо ня маючым ні ўлады, ні легітымнасьці беларускім сілам супрацьстаяць каляніяльнаму рэжыму будзе неверагодна складана.

І яшчэ пра ўмовы дзейнасьці. Геапалітычная сытуацыя вакол Беларусі таксама даволі неспрыяльная, бо антыамэрыканскі расейска-нямецкі хаўрус праводзіць цяпер на эўрапэйскім кантыненьце ўзгодненую палітыку. Канкрэтна ў Беларусі агульны расейска-нямецкі эканамічны ды палітычны інтарэс палягае ў тым, каб беларускі транзытны калідор быў пад поўным расейскім кантролем. Адсюль і намаганьні добра нам вядомых нямецкіх дыпляматаў у справе структураваньня беларускай АА і накіраваньні ейнай дзейнасьці ў рэчышча легітымізацыі каляніяльнага рэжыму пад маркай дэмакратызацыі. Нельга сказаць пра мэту нямецкай палітыкі ў Беларусі лепш, чым гэта зрабіў у верасьні 2000 г. на Міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку кіраўнік Менскай місіі АБСЕ Ганс-Георг Вік. Нямецкі дыплямат і разьведчык заявіў, што ён і Місія АБСЕ ў Менску ўжо напрацягу шэрагу гадоў праводзяць палітыку, накіраваную на ўключэньне Беларусі ў склад Расеі.

## Дыялёг дзесяты

**- Артыст, што выбіраеш: грошы ці славу?**

- Грошы!

**- Значыць, ты не артыст, а бізнэсмэн!**

***Выснова.*** Артыст выбірае славу, бізнэсмэн - грошы, спарцмэн - рэкорды, палітык - уладу. Кожны аддае перавагу таму, што ў ягонай сыстэме каштоўнасьцяў мае вышэйшы ранг. Палітык, які аддае перавагу грошам, - гэта бізнэсмэн ад палітыкі (карупцыянэр). Спарцмэн, які аддае перавагу ўладзе - палітык ад спарцмэнаў... Памяняўшы сыстэму каштоўнасьцяў (або здрадзіўшы ім), ты перастаеш быць тым, кім усё яшчэ паводле звычкі называешся.

***Камэнтар.*** Кожны від чалавечай дзейнасьці мае сваю сыстэму каштоўнасьцяў. Важна разабрацца ў гэтай сыстэме ды пабудаваць іерархію каштоўнасьцяў. Пытаньне ня ў тым, патрэбны ці непатрэбны палітыку, спарцмэну або артысту грошы, а ў тым, ці гатовыя яны дзеля грошай адмовіцца ад улады, спартыўных дасягненьняў або славы? Сапраўдныя палітыкі, спарцмэны й артысты гэтага ніколі ня зробяць, бо грошы ім патрэбныя, каб дасягнуць улады, рэкордаў і славы, а не наадварот. Сродак не павінен рабіцца мэтай, інакш дзейнасьць поўнасьцю мяняе свой накірунак.

***Прыклад.*** Вядомы савецкі спрынтар, чэмпіён Эўропы ў бегу на 100 метраў, Валеры Барзоў на чэмпіянаце ў Рыме быў пастаўлены перад выбарам: жыцьцё або сьмерць. За суткі да старта яму ў нумар гасьцініцы пачалі тэлефанаваць невядомыя й папярэджваць, што калі ён стартуе ў бегу на 100 метраў, яго застрэліць снайпер. Італьянская паліцыя не магла гарантаваць бясьпеку спарцмену. Там ня менш Барзоў застаўся спарцмэнам і выйшаў на старт. Атлет не перамог у Рыме, але даказаў, што сапраўдны спартсмен здольны рызыкаваць жыцьцём дзеля рэалізацыі сваіх спартыўных мэтаў, бо спартыўныя каштоўнасьці ў яго маюць найвышэйшы ранг.

***Палітычная аналёгія.*** У 2000 г. напярэдадні выбараў у «палатку» нямалая частка ўдзельнікаў Аб'яднанай апазыцыі (АА) актыўна супраціўлялася плянам удзелу апазыцыі ў псэўдавыбарах. З аднаго боку, было зразумела, што створаная ўладамі сыстэма татальных фальсыфікацыяў не дазволіць АА выйграць выбары. А, з другога, была небясьпека, што сам факт удзелу АА ў выбарчым фарсе дасьць падставы для прызнаньня вынікаў псэўдавыбараў міжнароднай супольнасьцю, што надасьць «палатцы» легітымнасьць. Легітымная «палатка» магла ратыфікаваць саюзную дамову з Расеяй і адпаведны канстытуцыйны акт. Пад рэальнай пагрозай мог апынуцца дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі.

Такім чынам, многія са сьвядомых беларусаў - прадстаўнікі АА - не хацелі браць удзелу ў расейска-нямецкіх плянах зьнішчэньня сувэрэнітэту Беларусі. Нават быў сабраны чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў, дзе актыўна выказвалася ідэя байкоту выбараў. Аднак усе гэтыя намаганьні не маглі супрацьстаяць ціску нямецкіх эмісараў, якія ня толькі ў сталіцы, але й ва ўсіх абласных (а часам і раённых) цэнтрах правялі нарады з кіраўніцтвам фактычна ўсіх беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў трэцяга сэктара. Госьці былі зусім канкрэтнымі: або вы ўдзельнічаеце ў выбарах, або ніякай матэр'яльна-тэхнічнай, грантавай дапамогі ніколі больш не атрымаеце. Кажучы працяй: або вы ідзеце на выбары (вылучаеце кандыдатаў, назіральнікаў, агітатараў...) і атрымліваеце пад гэтую справу сур'ёзныя матэр'яльна-тэхнічныя рэсурсы й нашу ласку, або развітваецеся з офісамі, аргтэхнікай, грантамі, паездкамі, сэмінарамі й трапляеце ў няласку...

Думаю, зразумела, што ў такіх умовах выбралі беларускія палітыкі. А вось беларуская «прагматыкі» выбралі зусім іншае. Яны разважалі прыкладна так: «Нам для беларускай справы патрэбныя рэсурсы? Патрэбныя! Калі ня пойдзем на псэўдавыбары, у нас рэсурсы адбяруць? Адбяруць. Без рэсурсаў мы зможам эфэктыўна займацца беларускай справай? Ня зможам. Значыць, трэба йсьці на псэўдавыбары, як таго ад нас хочаць немцы!» Паразважаўшы так, «прагматыкі» кінулі свае арганізацыі ў па-сутнасьці антыбеларускую дзейнасьць. Адныя пайшлі на выбары ў поўным варыянце (кандыдаты, назіральнікі, агітатары), другія – у сараміва-закамуфляваным (кандыдаты не ад партыяў, а праз збор подпісаў, і нават з часовым выключэньнем кандыдатаў з партыі), трэція – у скарочаным (без кандыдатаў, але з назіральнікамі й агітатарамі), чацьвёртыя – у сьмела-непаслядоўным (без кандыдатаў, з назіральнікамі й... агітацыяй за байкот). Ня дзіўна, што дзеячы апошняга варыянту пазьней атрымалі-такі ад немцаў «па мазгох».

Пасля ўсяго ня трэба й казаць, што ў беларускім варыянце палітычны «прагматызм» прадстаўлены, як палітычны «ідыятызм». Рэзка, але інакш удзел масы сьвядомых беларусаў у антыбеларускай дзейнасьці і не назавеш.

Для параўнаньня. Зыходзячы са сваёй сыстэмы каштоўнасьцяў, у якой дзяржаўны сувэрэнітэт займае вышэйшы ранг, Народна-вызвольны рух (НВР) ад пачатку заявіў пра разгортваньне кампаніі байкоту псэўдавыбараў. Байкот азначаў: кандыдатаў ад НВР ні зборам подпісаў, ні якім іншым чынам не вылучаць, назіральнікаў не выстаўляць, агітаваць за байкот і выбаршчыкаў, і АА, і міжнародную супольнасьць. Байкот быў пасьлядоўна праведзены ў жыцьцё.

Дзякуючы цьвёрдай пазіцыі НВР пры непасьлядоўнасьці АА, зь вялікімі цяжкасьцямі ўдалося прадухіліць канчатковае міжнароднае прызнаньне вынікаў псэўдавыбараў. Тым ня менш, легітымнасьць ВС-13 была падмочаная, і ягоныя прадстаўнікі згубілі свае крэслы ў эўрапэйскіх структурах.

Уладзімір Содаль

# Сьвіранскі трамплін

Францішак Багушэвіч, як ведама, браў удзел у паўстаньні 1863 г. Далучаная да паўстаньня была і ўся Багушэвічава сям'я, і ўсе яны – два браты, сястра й бацька – патрапілі пад мураўёўскі перасьлед – вастрог і арышт. Адзін толькі Францішак унікнуў гэтага перасьледу. Як яму гэта ўдалося?

Адказ на гэтае пытаньне адзін: Францішак Багушэвіч паўстаньнічаў далёка ад родных мясьцінаў: спачатку ў Доцішках Лідзкага павету, затым у Аўгустоўскіх лясох. У адным з баёў з мураўёўцамі ён быў паранены ў нагу. Выхадзіла яго невядомая сям'я Крушэўскіх. Але вось загаілася нага, загаілася рана. Што рабіць далей? І тады згадаліся Францішку Багушэвічу ціхія падвіленскія Сьвіраны. Там яшчэ жылі якіясь Багушэвічавы сваякі з Галаўнёў. І Багушэвіч патаемнымі сьцежкамі з-пад Аўгустава прабіраецца ў Сьвіраны. Тут ён таксама жыве патаемна, ня надта вытыркаецца, абдумвае сваё становішча, шукае выйсьця. Зрэдку нішкам наведвае Вільню.

І гэтак было аж да тае пары, пакуль Францішак не спаткаўся зь Янам Карловічам, сям'ю якога ведаў з часу свайго настаўнічаньня ў Доцішках. Пра гэтую сустрэчу й ейныя вынікі Францішак Багушэвіч напісаў Янавай маці так: "Ясновяльможная пані, напэўна, ведома, што ейнаму высакароднаму сыну я абавязаны сваёй будучыняй: мабыць, і да сёньняшняга дня я абіваў-бы без усякае карысьці віленскі брук, калі-б не ягоная шляхетная дапамога, якую ён аказаў, даючы грошы на дарогу ў Нежын, не патрабуючы ніякай гарантыі й не прызначаючы тэрмінаў іхнага звароту. Таму, дзякуючы ягонай ласцы, я цяпер у Нежынскім ліцэі, і маю надзею, што здолею разьлічыцца зь сьвятой для мяне пазыкай, хоць і ня так хутка, як спадзяваўся спачатку".

Ліст гэты датаваны 1865 годам. І пісаўся ён ужо з далёкага ад паўстанцкага краю ўкраінскага мястэчка Нежына. На Беларусі-ж тымчасам мураўёўцы працягвалі свае рэпрэсіі.

